**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.29, 16.19, 8.50;
Віцебск — 7.24, 16.04, 8.40;
Магілёў — 7.18, 16.04, 8.56;
Гомель — 7.12, 16.09, 8.57;
Гродна — 7.45, 16.33, 7.48;
Брэст — 7.38, 16.41, 9.03.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 10 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**
Настассі, Аўрама, Марыі, Клаўдзія, Ганны, Марціна.

# ЗВЯЗДА

11 ЛІСТАПАДА 1992 г.
серада, № 228 (22006)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## ПАГАРЭЛЬЦЫ БЕЗ ДАПАМОГІ НЕ ЗАСТАНУЦЦА

**МІНСК. У гэтым годзе многія вёскі Беларусі пацярпелі ад стыхійных бедстваў і пажараў. Гэтым ахвярам рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу вырашыў аказаць грашовую дапамогу ў 300 тысяч рублёў. Яна будзе накіравана ў вёскі Калюга і Сяльцы Глускага раёна (страты ад пажару), калгас «Расія» Смаргонскага і эксперыментальную базу «Баруны» Ашмянскага раёнаў (пацярпелі ад смерчу). Асобна па пяць тысяч рублёў выдзелена ўдзельніку ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС В. Кулажэнку, а таксама калгаснікам Н. Зяневічу (Чэрвеньскі раён) і С. Вашуку (Бешанковіцкі раён), чые сем'і пацярпелі ад стыхійных бедстваў.**

## ЧЫЯ ВІЛЬНЯ—ПРАЦЯГ СТАРОЙ СПРЭЧКІ

10—12 лістапада ў Вільні ў зале Акадэміі навук Літвы адбудзецца міжнародны сімпозіум на тэму «Адносіны Літвы і Польшчы ў гісторыі Цэнтральнай Еўропы XX стагоддзя: мінуўшчына і перспектывы». Арганізавалі сімпозіум Інстытут гісторыі Літвы і Інстытут літоўскай мовы. Больш за 40 даследчыкаў з Польшчы, Украіны, Фінляндыі, Латвіі, Швецыі, Расіі, Літвы і Беларусі выступяць з рэфератамі пра ўзаемныя культурныя, палітычныя, моўныя ўплывы, пра становішча нацыянальных меншасцей. Яшчэ да пачатку сімпозіума ў друку Літвы і Польшчы з'явілася шмат публікацый, сэнс якіх так ці іначай зводзіцца да стрыжня праблемы — прыналежнасці Вільні.

**Андрэй КОРСАК.**
**(БелаПАН).**
Вільня.

## ПЕРАНЯСЁМ ЛІНІІ МЕЖАЎ...

**Як паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў, на 19 лістапада намечана чарговая сустрэча рабочых груп Літоўскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь па пытанню дэлімітацыі дзяржаўных межаў (вызначэнне лініі іх праходжання).**

**У састаў рабочай групы Рэспублікі Беларусь уваходзяць прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэта геадэзіі, пагранічных войскаў і Беларускай чыгункі.**

**Святлана КУЛІКОВА.**
**(БелаПАН).**

**У рэспубліканскім выставачным цэнтры экспануецца выстаўка-кірмаш «Канверсія-92». У ёй прымаюць удзел многія прадпрыемствы Беларусі, якія раней працавалі выключна на «абаронку».**
**НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## БЕЛАРУСЬ—У ЛІКУ ПЕРШЫХ

У 1954 годзе большасць краін Заходняй Еўропы, а таксама Савецкі Саюз, падпісалі Еўрапейскую культурную канвенцыю. Пасля распаду СССР Беларусь адной з першых «былых» атрымала запрашэнне агаварыць умовы новага падпісання гэтага дакумента. У нядзелю дэлегацыя нашага міністэрства культуры накіравалася ў Страсбург, дзе знаходзіцца штаб-кватэра Савета Еўропы.

Культурная канвенцыя прадугледжвае прапаганду еўрапейскіх моў, гісторыі і іншых культурных каштоўнасцей у розных еўрапейскіх дзяржавах. Калі пад дакументамі канвенцыі з'явіцца подпіс прадстаўніка Беларусі, то гэта будзе рэальным крокам па інтэграцыі нашай рэспублікі ў агульнаеўрапейскі дом.

**РІД.**

## ГАЙДАР І ЕЛЬЦЫН ЗАСТАЛІСЯ Ў АДЗІНОЦЕ

Як паведаміла даведачная служба Масквы, у горадзе жывуць тры Гарбачовы М. С., два Бурбулісы Г. Э., два Руцкіх А. У., не лічачы іншых вядомых у Расіі прозвішчаў. Гайдар Е. У. і Ельцын Б. М. у Маскве адзіныя і непаўторныя. Можа гэта добры знак — спадзяюцца многія масквічы.

## БСДГ РЫХТУЕЦЦА ДА З'ЕЗДА

18—20 снежня Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада правядзе свой другі з'езд. Гэта было вырашана на пленуме БСДГ, што адбыўся днямі ў Мінску.

Грамада рыхтуецца прыняць партыйную праграму і перапрацаваны статут. Прычым праграма будзе прымацца на альтэрнатыўнай аснове. Сярод удзельнікаў пленума распаўсюджаны два яе праекты. Аўтар аднаго з іх — Анатоль Сідарэвіч, другога — Анатоль Гурыновіч.

На пленуме Цэнтральная Рада БСДГ прыняла заяву аб рашэнні Вярхоўнага Савета накont рэферэндуму. Назваўшы гэта рашэнне «палітыканствам дзеля ўтрымання ў карыслівых мэтах на вяршыні ўлады», кіраўнікі партыі падвергці крытыцы пастанову ВС «Аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных пераўтварэнняў». На думку БСДГ, дакумент «носіць дэкларатыўны характар і не накладвае ніякіх юрыдычных абавязкаў на Вярхоўны Савет» па правядзенню датэрміновых выбараў у сакавіку 1994 года. Акрамя таго, «грамадоўцы» лічаць той факт, што за пастанову прагаласавала менш дзвюх трацей ад колькасці дэпутатаў — парушэннем дзейнай Канстытуцыі.

На пленуме абмяркоўвалася і была прынята пастанова «Аб увекавечанні памяці Міхася Ткачова». Вырашана хадайнічаць перад Гродзенскім і Мсціслаўскім гарвыканкомамі аб адкрыцці мемарыяльных дошак на дамах, дзе жыў і працаваў вядомы вучоны, устанавіць з бюджэту Грамады дзве імянныя стыпендыі студэнтам-гісторыкам Беларускага і Гродзенскага універсітэтаў, выдаць збор твораў.

У сувязі з тым, што надыходзіць чарговая гадавіна Слуцкага паўстання 1920 года, якое ўзначальвалі былыя беларускія сацыялісты, пленум даручыў выканкому Грамады падрыхтаваць адпаведны зварот да сяброў партыі і грамадскасці.

# АДСУТНАСЦЬ СЕНСАЦЫЙ— ГЭТА НЕ ЗАЎСЁДЫ ДРЭННА

Дзіўна, прызнаюся, было сядзець на чарговым пасяджэнні Вярхоўнага Савета 10 лістапада. Нечага не хапала. На другой гадзіне сядзення нарэшце дайшло: сенсацый няма. Скандалаў, спрэчак і гэтак далей. Ціха было, спакойна і інтэлігентна, я сказаў бы.

Хуценька прынялі пастанову аб зацвярджэнні тэксту новай прысягі і тэрмінах яе прыняцця ў войсках, не выклікала спрэчак і пастанова аб зацвярджэнні Закона «Аб усеагульным воінскім абавязку». І перайшлі да абмеркавання праекта Закона «Аб вырашэнні калектыўных спрэчак».

На жаль, абмеркавання па сутнасці не было. Дастаткова сказаць: у спрэчках выступіў толькі стабільна актыўны дэпутат Алег Трусаў.

А ў гэты час нехта чытаў газету, хтосьці абмяркоўваў свае асабістыя праблемы, нехта ішоў перакурыць. Справа, канешне, саміх дэпутатаў, як паводзіць сябе. А мне, дурному, дык здаецца, што другарадных законаў няма. Тым больш, што калі сказаць проста, абмяркоўваўся праект закона аб тым, як нам баставаць. Па якіх правілах, значыць. Я чамусьці ўпэўнены: забастуй зараз заводы — было б шмат гарачых выступленняў. А не бастуюць, ну, можна лёгенька так перасядзець, пераслухаць, перакурыць.

Дзіўная ў нашага парламента асаблівасць: цікавіцца толькі кардынальнымі законамі, накшталт Закона «Аб праве ўласнасці на зямлю». Безумоўна, гэта важна, і вельмі. Аднак мы жывём не па аднаму закону, а па іх зводу. Скажаце, тут палітыка і ты ў яе не лезь? А навошта яна мне, калі мне жыць не па палітычных, а па юрыдычных законах?

Да абеду дэпутаты таксама паспелі пачаць абмеркаванне праекта Закона «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь». У прынцыпе і тут усё ішло больш-менш гладка. Невялікія спрэчкі ўзніклі па артыкулу, у якім нацменшасцям даецца права на свае сродкі інфармацыі. Інакш кажучы, на газеты, часопісы, тэле- і радыёкампаніі. Дэпутат Пазняк заклікаў прытрымлівацца міжнародных нормаў. Расшыфрую: Зянон Станіслававіч быў у Бельгіі, і там тэлевізійшчыкі яму сказалі — мы гатовы плаціць долары, каб вяшчаць у вас, прапагандаваць, значыць, свае ідэі. Яны могуць, растлумачыў дэпутат Пазняк, стварыць кампанію на тэрыторыі рэспублікі. Прашу прабачэння, ну і што? Не думаю, што замежнікі будуць прапагандаваць выключна насілле, парнаграфію і заклікаць беларусаў пераязджаць на Захад. Тым больш такі момант можна агаварыць спецыяльным артыкулам ці пунктам.

Наколькі ведаю, да 30-х гадоў у Беларусі нацыянальныя меншасці выдавалі свае газеты, і нічога. Хто хацеў — чытаў, хто не хацеў—не чытаў. Напрыклад, мяне ніяк не прымусіш чытаць польскую газету—я мовы не ведаю, Ну, а калі гэта польская газета будзе заклікаць да паўстання, дык на гэта ёсць Канстытуцыя, законы. Мне так здаецца.

Увогуле ж на сесіі — ціха. Ідзе работа.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# Новае павышэнне зарплаты перш за ўсё азначае, што яе зноў калі-небудзь будзе мала

**Нядаўна ў нашай газеце была змешчана пастанова Савета Міністраў рэспублікі «Аб сацыяльнай падтрымцы насельніцтва ў сувязі з прадаўжэннем росту рознічных цэн на тавары і паслугі». Асобныя пункты гэтай пастановы выклікалі пытанні ў чытачоў, з якімі і звярнуўся наш карэспандэнт да першага намесніка старшыні Дзяржкампрацы рэспублікі А. КОЗЕЛА.**

Найперш ён адзначыў, што калі вызначылі новы ўзровень мінімальнай заработнай платы (як вядома, з першага лістапада ён складае 2.000 рублёў) і, адпаведна, новую стаўку першага разраду (2.200), улічваўся рост цэн з чэрвеня па кастрычнік і мяркуемы іх рост у лістападзе. У выніку атрымалі двухразовы рост цэн (разам з лістападам). Зыходзячы з гэтага і ўстанавілі новы мінімум і новую стаўку першага разраду.

У адпаведнасці з гэтым усе стаўкі бюджэтных работнікаў у лістападзе ўзрастуць прыкладна ў два разы. Усё залежыць ад таго, да якога разраду аднесена тая ці іншая катэгорыя работнікаў у існуючай тарыфнай сетцы. Пэўнаму ж разраду адпавядае і пэўны каэфіцыент, пры памнажэнні якога на стаўку першага разраду (2.200) можна самому даведацца аб сваёй новай стаўцы зарплаты. (Варта нагадаць: гаспадарчаразліковыя прадпрыемствы і арганізацыі дзейнічаюць у гэтых адносінах самастойна, і яны ўвогуле не чакаюць спецыяльных пастаноў. Але новы мінімум цяпер абавязковы для ўсіх без выключэння.)

У цэлым усе, «хто знаходзіцца на бюджэце», абыдуцца яму ў капеечку: агульныя расходы на павышэнне зарплаты ўзрастуць дзесьці прыкладна ў 2,2 раза.

Што крыецца за наступным вызначэннем: «...унесці пры неабходнасці змяненні ў тарыфікацыю асобных прафесіянальна-кваліфікацыйных груп работнікаў, а таксама ў размеры каэфіцыентаў...»? Ці не азначае гэта мяркуемага зніжэння асобных ставак ва ўказанай сетцы, у якой усе работнікі, што «кормяцца» з бюджэту, выстраены па рангу і ў адпаведнасці з займаемым месцам атрымліваюць той ці іншы аклад?

Тарыфы і размеры каэфіцыентаў пераглядаюцца пераважна ў бок павелічэння. Гэта перш за ўсё датычыць настаўнікаў, якіх «трэба перасоўваць на 4—5 разрадаў уверх», работнікаў сельскіх Саветаў, асобных устаноў Мінсельгасхарча, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, культуры, аховы здароўя (у прыватнасці медсясцёр). Адным словам, указаная сетка Дзяржкампрацы, якая кожнаму з бюджэтнікаў вызначыла пэўны кавалак, памеры гэтых кавалкаў адносна адзін аднаго, будзе ў бліжэйшы час мадэрнізавана і ўжо з пачатку новага года павінна з'явіцца ў абноўленым выглядзе. Галоўнае, яе мяркуецца зрабіць больш ураўняльнай. Цяпер існуюць наступныя суадносіны паміж стаўкамі розных разрадаў (і адпаведна прафесій): з 1-га па 8-ы разрад разрыў складае 11 працэнтаў, з 8-га па 22-гі—10,3 працэнта і з 22-га па 28-ы — 9 працэнтаў (па 28-м разрадзе атрымліваюць два чалавекі ў рэспубліцы—Старшыня Вярхоўнага Савета і Старшыня Саўміна. Каэфіцыент 28-га разраду—13,83). Вось гэтыя суадносныя працэнты і мяркуецца крыху ўціснуць, ураўнаважыць. У выніку гэтага «прэпарыравання», нягледзячы на значна больш важкія абсалютныя лічбы верхніх ставак, іх пакупная здольнасць у параўнанні з цяперашняй—зменшыцца, а ніжніх—узрасце. Калі зыходзіць з таго факта, што справы ў эканоміцы, наша жыццё ў цэлым не паляпшаюцца, то, няйначай, так і трэба — крыху «спусціць» па тарыфнай лесвіцы найлепш аплачваемыя катэгорыі, бо ў першую чаргу менавіта ад іх і залежыць, як мы працуем і жывём. Гэта будзе справядліва, хоць, зрэшты, крыху і вяртае нас назад да сацыялістычнага прынцыпу «ўсім пароўну».

Згодна з указанай пастановай павышаецца не толькі зарплата бюджэтнікаў (дарэчы, Дзяржкампрацы і Мінфін рэкамендуюць прадпрыемствам і арганізацыям выдаваць аванс у лістападзе ўжо зыходзячы з новых ставак), але і размеры дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, а таксама размеры стыпендый і пенсій. Адпаведныя дакументы ўжо падрыхтаваны, асноўны прынцып павелічэння той жа—у 2 разы. Грашовыя даходы ў лістападзе будуць прыняты за аснову для іх далейшай індэксацыі пры росце цэн.

Такім чынам, з новай зарплатай?

Вядома, больш высокая зарплата—гэта заўсёды прыемна. На фоне ж нястрымнага росту цэн—асабліва. Але нельга не прадбачыць у сувязі з гэтым і іх новага вітка. І не бюджэтнікі тут будуць вінаватыя (хіба што іх трэба мець як мага менш). Зарплата найперш расце на вытворчасці. І няхай бы яна расла. Дрэнна тое, што мы не пацвярджаем яе рост адэкватнымі матэрыяльнымі дабротамі, нарошчваннем аб'ёмаў выраблямых тавараў і паслуг, іншай прадукцыі, не пацвярджаем ростам прадукцыйнасці працы. А значыць, і гэтую новую, лістападаўскую, базу для далейшай індэксацыі, пра якую гаварыў А. Козел, напэўна, задзейнічаем вельмі хутка. Інфляцыя пакуль што па-ранейшаму спраўляе свой баль. Напэўна, гэтаму негатыўнаму працэсу не перашкодзіць і абмежаванне ў 5 мінімальных зарплат, якое накладаецца на сярэднюю зарплату работнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый.

Нягледзячы на ўсякую мадэрнізацыю той жа сеткі, колькасць нездаволеных зарплатай не стане меншай. Учора настаўнікі перакрылі праспект, сёння ўжо камунальнікі пагражаюць перакрыць — каналізацыю і ваду. Заўтра могуць прад'явіць пэўныя патрабаванні нават работнікі органаў дзяржаўнага кіравання, якім таксама не хапае... (Дарэчы, відаць, не для ўсіх усё так змрочна: у Дзяржкампрацы гаварылі, што некаторыя кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў атрымліваюць больш за прэм'ера. І ў гэтым ёсць пэўны парадокс, бо і кіраўнік, і прэм'ер знаходзяцца на дзяржаўнай службе, але ў апошняга, у адрозненне ад першага, значна большае кола абавязкаў і значна большая адказнасць.).

Вельмі шкада, але, здаецца, нашы намаганні па-ранейшаму накіраваны на тое, як найлепш падзяліць. Гэта разам з прыемнай навіной аб павышэнні таксама варта было б засвоіць.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

ІНТЭРВ'Ю НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# Садружнасць чакае статут

**Усяго некалькі дзён засталося да адкрыцця чарговай сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін Садружнасці, якая павінна адбыцца 13 лістапада. Ад апошняга бішкекскага «спаткання» лідэраў дзяржаў маскоўскае аддзяляе не такі ўжо вялікі тэрмін — менш за два месяцы. Але на гэта імгненне, з пункту гледжання гісторыі, выпала вялікае мноства падзей, значэнне якіх для лёсу асобных людзей, а можа і цэлых народаў, суджана будзе ацаніць, відаць, толькі нашым нашчадкам.**

**Які ўплыў зрабілі яны на праблематыку будучых дыскусій? Што сабрана ў пакетах дакументаў, выносімых на разгляд Савета кіраўнікоў урадаў? Які з падрыхтаваных праектаў з'яўляецца найбольш актуальным і неабходным для ўмацавання прававога фундамента Садружнасці?**

**З абоймы гэтых, прама скажам, няпростых пытанняў пачалася гутарка з каардынатарам рабочай групы СНД Іванам КАРАТЧЭНЕМ.**

— Мне хацелася б у самым пачатку размовы сказаць чытачу, што парадак дня сустрэчы па-ранейшаму застаецца толькі папярэднім. Канчатковае слова, як заўсёды, за тымі, хто гэтыя праблемы будзе абмяркоўваць. Кіраўнікі ўрадаў маюць права ўнесці любыя карэктывы.

А цяпер аб важнейшых праблемах, якія прадугледжваецца разглядзець. Вы, вядома, маеце рацыю, намякаючы на тое, што жыццё павінна вызначаць прыярытэты ў прыняцці тых ці іншых прававых актаў. Думаю, што менавіта суровая рэчаіснасць паскорыла ўвасабленне ў канкрэтныя дакументы ідэі больш цеснага ўзаемадзеяння дзяржаў. На сустрэчы ў Маскве прадугледжваецца зацвердзіць палажэнне аб узаемным прызнанні віз дзяржаў-удзельніц Садружнасці, палажэнне аб рэгуляванні міжнароднага рынку каштоўных папер і яшчэ цэлы шэраг дакументаў.

— Як вядома, у рамках Садружнасці падпісана ўжо больш за 200 прававых актаў. Але сярод іх няма, на нашу думку, галоўнага — статута СНД. Праўда, у друку былі паведамленні, што работа над праектам ідзе вельмі інтэнсіўна... Ці плануецца ў Маскве якая-небудзь размова аб статуце?

— Так, плануецца. Але наколькі падрыхтаваны пакуль што толькі праект статута, гаварыць аб ім падрабязна на ўрад ці ёсць сэнс. Адзначу толькі, што асноўныя мэты і прынцыпы СНД у ім засталіся практычна тыя ж, што першапачаткова былі сфармуляваны ў белавежскіх пагадненнях, а затым развіты і ўдакладнены ў алма-ацінскай дэкларацыі і

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# РАДЫЁ ФАКТ

Цэны на таксі ў Мінску будуць ранейшыя: гэта значыць, за адзін кіламетр з пасажыра — 20 рублёў, пасадка таксама 20, адна гадзіна чакання кліента 200 рублёў. Так вырашыла арэндна-вытворчае аб'яднанне «Мінсклегаўтатранс». Яго калектыў да чарговага змянення ўмоў перавозак вырашыў тарыфы на таксі не павялічваць.

***

**По фіктыўных дакументах невядомы ў форме маёра запатрабаваў у адной з рот Мінскага вышэйшага каманднa-ваеннага вучылішча выдаць яму зброю — 23 аўтаматы АК-74. Аднак дзяжурны, малодшы сяржант Раманчук, адмовіўся выканаць загад. Пазней высветлілася, што ніякіх санкцый на выдачу зброі «маёру» ніхто не даваў. Гэты армейскі факт паказвае, як метастазы рынку зброі прарастаюць з поўдня на поўнач былой тэрыторыі Саюза ССР.**

***

Доўгі час магілёўскі фондавы бензін сплываў у Чарнігаўскую вобласць Украіны і Малдову. І гэта пры вострым недахваце гаруча-змазачных матэрыялаў. Віноўнікі інцыдэнту — кіраўнікі магілёўскага вытворчага аб'яднання «Аблнафтапрадукт».

***

**У Жлобіне будзе асвячоны фундамент новай царквы. Яна будуецца непадалёк ад таго месца, дзе ў 30-я гады быў разбураны праваслаўны храм. Новая царква ўзводзіцца на народныя грошы.**

***

Школа жаночага абаяння пад назвай «Афрадыта» працуе ў Салігорску. Слухачкі — маладыя дзяўчаты і жанчыны. Яны слухаюць лекцыі па пытаннях моды, касметыкі, правілах паводзін з процілеглым полам, а таксама спосабах абароны ад назойлівых кавалераў. Перад слухачкамі выступаюць лектары з Беларусі і Францыі.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб невыкананні Урадам рэспублікі Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 29 кастрычніка 1991 года «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» са змяненнямі, унесенымі Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23 красавіка 1992 года

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Інфармацыю Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць да ведама.

2. Лічыць, што прапанаваны Саветам Міністраў механізм карэкціроўкі заработнай платы педагагічных работнікаў на аснове параўнання з заработнай платай служачых у прамысловасці за мінулае паўгоддзе з'яўляецца недастатковым.

3. Устанавіць, што з 1 верасня 1992 года да 1 студзеня 1994 года пры прымяненні абзаца сёмага часткі першай артыкула 34 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь»:

разрады і тарыфныя каэфіцыенты педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу, павінны ўстанаўлівацца такім чынам, каб сярэдняя заработная плата педагагічных работнікаў была не менш чым 100 працэнтаў, а прафесарска-выкладчыцкага складу — не менш чым 150 працэнтаў сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці ў мінулым квартале. Пакварталную карэкціроўку разрадаў і тарыфных каэфіцыентаў педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу, з улікам сярэднемесячнага заработку служачых у прамысловасці праводзіць пачынаючы з IV квартала 1992 года;

яго дзеянне распаўсюджваецца на педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу, навучальных устаноў і ўстаноў сістэмы адукацыі, якія знаходзяцца на бюджэце.

4. У сувязі з увядзеннем новага механізма карэкціроўкі заработнай платы педагагічных работнікаў ад сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці Савету Міністраў правесці да 1 снежня 1992 года разавую выплату за верасень гэтага года педагагічным работнікам у памеры 1.400 рублёў у разліку на стаўку педагагічнага работніка, а прафесарска-выкладчыцкага складу —2.800 рублёў. Аднесці азначаныя расходы ў адпаведных памерах на рахунак сродкаў, выдзеленых на адукацыю і ўнутраны доўг рэспублікі.

5. Савету Міністраў:

у двухтыднёвы тэрмін зацвердзіць пералік пасад педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу, якім павышаецца заработная плата;

прадугледзець у статыстычнай справаздачнасці звесткі аб памеры сярэдняй заработнай платы педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу;

зацвердзіць кваліфікацыйныя характарыстыкі пасад педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу;

пры карэкціроўцы заработнай платы педагагічных работнікаў праводзіць карэкціроўку заработнай платы работнікаў іншых бюджэтных арганізацый і ўстаноў, захоўваючы пры гэтым прапорцыі, устаноўленыя адзінай тарыфнай сеткай рабочых і служачых. Адначасова ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Вярхоўны Савет прапановы па крыніцах фінансавання ўзнікшых дадатковых расходаў бюджэту.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

5 лістапада 1992 года г. Мінск.

Як вядома, на мінулым тыдні на плошчы Незалежнасці ў Мінску прайшлі масавыя акцыі педагогаў, у час якіх на некалькі гадзін была перакрыта праезджая частка праспекта і спынены рух транспарту.

У сувязі з гэтым да адказнасці прыцягваюцца кіраўнікі прафсаюза работнікаў народнай адукацыі і навукі.

Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі лічыць недапушчальным прыцягненне да дысцыплінарнай і іншай адказнасці работнікаў асветы і прафсаюзных актывістаў.

Прафсаюзы лічаць, што артыкул № 34 Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», які гарантаваў устанавіць з 1 верасня 1992 года сярэднюю стаўку зарплаты педагагічным работнікам не ніжэй за сярэднюю зарплату служачых у прамысловасці,—урад не выканаў і тым самым, па сутнасці, справакаваў масавыя выступленні педагогаў. Да прысутных на плошчы ніхто з маючых уладу не паспяшаўся выйсці і растлумачыць сітуацыю, што, несумненна, падагрэла страсці.

**Прэс-цэнтр Савета ФПБ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: І ўсё ж — ці павінны ўлады глядзець скрозь пальцы на падобныя правапарушэнні, робячы скідку на крытычнае становішча педагогаў? На нашу думку, паблажлівасць можа прывесці да таго, што заўтра праезджую частку перакрыюць урачы, паслязаўтра — культработнікі. І так да бясконцасці. Прычым усе іх патрабаванні таксама будуць абсалютна абгрунтаванымі.**

ПАДПІСКА-93

# 39 беларускіх выданняў— аднаму адрасату

Магчыма, хто-небудзь палічыць мяне дзіваком, не зусім нармальным чалавекам, які пры невялікай пенсіі выпісвае дзесяткі беларускіх выданняў на суму, што пашкадуе сёння куды больш заможны чытач ці бізнесмен. Я ж не дзеля асабістай пахвальбы (такая слава не для мяне) звярнуўся ў «Звязду». Вы, паважаная рэдакцыя, спадзяюся, лепш за мяне ведаеце незайздросны стан сёлетняй падпіскі на беларускія выданні з нагоды значнага павышэння на іх цэн і з іншых прычын. У сувязі з такімі праблемамі хацелася б, каб сродкі масавай інфармацыі акцэнтавалі пільную ўвагу ўсіх свядомых беларусаў і небеларусаў, на актыўную падтрымку нацыянальнай перыёдыкі. Дзеля гэтага я магу «пахваліцца» выпісанымі летась выданнямі і маю прычыну «пахваліцца» новай падпіскай на 1993 год. Усяго мною выпісана 39 беларускіх выданняў на ўсё паўгоддзе, з іх 21 газета («Звязда», «ЛіМ», «Чырвоная змена», «Культура», «Наша слова», «Наша ніва», «Свабода», «Голас Радзімы» і інш.) і 18 часопісаў (у тым ліку «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Неман», «Спадчына», «Беларуская мінуўшчына», «Родная прырода», «Мастацтва», «Роднае слова») — усяго на 2.536 рублёў, або паўтары маёй пенсіі.

Думаецца, прачытаўшы мой допіс у шаноўнай «Звяздзе», многія беларусы адчуюць грамадскі сорам за сваю абыякавасць да беларускага друкаванага слова і падпішуцца хоць бы на некалькі выданняў. З гэтай акцыі была б двайная карысць: шырэйшае азнаямленне падпісчыкаў з жыццёвымі рэаліямі ў рэспубліцы і дадатковая фінансавая падтрымка беларускай перыёдыкі. А то нямала заможных землякоў, што толькі на словах за нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны, а выпісаць некалькі айчынных выданняў забыліся...

**Мікола ПЛАВІНСКІ,**
**даўні чытач «Звязды».**
г. Віцебск.

# Як нас вучаць капіталізму...

**Пакуль прарасійскія патрыёты мусіруюць пытанне аб мэтазгоднасці ўвядзення дзяржаўнай мовы, папулярнасць роднай беларускай расце з кожным днём. Прычым, не толькі сярод грамадзян Беларусі, але і іншаземцаў. Напрыклад, сярод прадстаўнікоў турэцкай фірмы «Энка». Варта было толькі газеце «Звязда» 5 лістапада апублікаваць артыкул «Цукерка з пеніцылінавай начынкай», як адносна бязвоблачнае жыццё ў супрацоўнікаў фірмы скончылася.**

Літаральна на наступны дзень пасля выхаду ў свет указанай публікацыі турэцкія рабочыя нанеслі візіт у кватэру сям'і Гудковых. Працавалі з самааддачай, дастойнай пераймання: у лічаныя хвіліны былі ліквідаваны дзіркі ў сценах. Тыя самыя, якія рабочыя «Энкі» зрабілі некалькі месяцаў назад і аб якіх па прастаце душэўнай забыліся.

Ускалыхнуў артыкул і чыноўнікаў міністэрства абароны. У кватэрах, дзе пачалі пакрывацца цвіллю сцены і столь, пабывалі адказныя работнікі ў мундзірах. Уважліва вывучыўшы тое, што калісьці называлася імпартнымі шпалерамі, яны выдалі даволі канкрэтнае рэзюме: нічога не чапайце, ствараецца вельмі высокая камісія...

Што ж, Астап Бендэр у падобнай сітуацыі, напэўна, успомніў бы сваё легендарнае «лёд крануўся». Нам жа прыемна канстатаваць: менавіта «Звязда» стала прычынай гэтага не зусім звычайнага «ледаходу», што пагражаў перарасці ў міжнародны скандал.

Разам з народнымі дэпутата-

(Заканчэнне на 3-й стар.).







**ЗІМОЙ — ТЭОРЫЯ, ЛЕТАМ—ПРАКТЫКА,— такі расклад заняткаў гуртка радыёпеленгацыі, які працуе ў Цэнтры навукова-тэхнічнай творчасці моладзі Партызанскага раёна г. Мінска. Радыёпеленгацыя больш вядомая як спартыўна-тэхнічная гульня «Паляванне на ліс». Тым, хто гэтым захапляецца, патрэбна выдатная фізічная і тэарэтычная падрыхтоўка. Таму ва ўсіх краінах майстроў «палявання на ліс» рыхтуюць з ранняга ўзросту.**

**Сорак хлопчыкаў і дзяўчынак з чацвёртых, пятых, шостых класаў прыходзяць на заняткі гэтага гуртка. У непагодлівыя асеннія дні, зімою займаюцца ў радыёлабараторыі: вывучаюць азбуку Морзе, авалодваюць радыётэхнікай. З нецярплівасцю чакаюць яны надыходу летняга цяпла, калі замаскіраваны ў лясным гушчары радыёперадатчык пашле для іх першыя пазыўныя «лісы». Вось тады і спатрэбяцца вынослівасць бегуна па перасечанай мясцовасці, знаходлівасць аператара-радыёпеленгатара.**

**У юных радыёаматараў добрыя настаўнікі. У госці да дзятвы нярэдка прыходзяць вядомыя спартсмены.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: гурткоўцы сустрэліся з ветэранам радыёспорту, былой партызанскай радысткай Маргарытай Іванаўнай КАЛЬМАЕВАЙ; у шасцікласніка Валодзі КРУГЛІКА ёсць свае першыя поспехі; заняткі з юнымі радыёаматарамі вядзе былы сувязіст-пагранічнік Дзмітрый Георгіевіч КУРНЕВІЧ.**

---

**ВАШ САД І АГАРОД**

**Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).**

# Раіць доктар Мітлайдэр

**УНЯСЕННЕ ЎГНАЕННЯЎ**

Глебу запраўляюць толькі вясною. Восенню ўчасткі-градкі перакопваюцца адзін раз на год. Стараемся, каб ні адно грануляванае зерне не заляцела за межы грады. Для гэтага можна нават дадаткова выкарыстоўваць жэрдачкі, нацягваць на межах шпагат ці пазначаць роўнымі лініямі.

У асноўным уносяцца дзве сумесі. Дадзім ім нумары 1 і 2. Першая ўтрымлівае даламітавую муку, вапну, мел (глебы кіслыя) ці гіпс (глебы нейтральна-шчолачныя). Да гэтых хімікатаў дадаецца бор у невялікай колькасці. Гатовая сумесь такая: 5 кг. даламітавай мукі і 40 г борнай кіслаты.

Другая сумесь — асноўная. У яе састаў уваходзяць макраэлементы — азот, фосфар і калій. Добра «ўпісваецца» тут нітраамафоска. У ёй утрымліваюцца названыя асноўныя ўгнаенні ў роўнай колькасці. Патрэбна нітраамафоскі 2,9 кг. Да гэтай вагі дадаюць: 450 г сульфату магнію і па 10 г малібдэнавай і борнай кіслаты. Агульная вага 3.370 грамаў. Гэта толькі для адной стандартнай градкі 45×900 сантыметраў.

Другую сумесь можна нарыхтаваць і з розных элементаў. Напрыклад, 1,45 кг аміячнай салетры, 0,7 кг двайнога суперфасфату і 0,9 кг хлорыстага калію. Да іх таксама дадаюцца 450 г сульфату магнію і па 10 г борнай і малібдэнавай кіслаты. Заўважым, што аміячная салетра ўтрымлівае 34 працэнты дзеючага рэчыва, двайны суперфасфат — 46 працэнтаў, а хлорысты калій — 60 працэнтаў. Улічваючы, што апошні ўтрымлівае хлор (а гэтага элемента «баяцца» многія культуры), яго можна замяніць сульфатам калію.

Цяпер вельмі складана знайсці патрэбныя хімічныя элементы. Не хапае то аднаго, то другога. Здараецца, нічога наогул няма. Спытайцеся ў знаёмых: ці не набывалі яны такія мінеральныя ўгнаенні, як «Рост 1» і асабліва «Рост 2». Па сумарнай канцэнтрацыі яны ўступаюць саставу Мітлайдэра, а ўсё ж іх можна разглядаць, як яго заменнікі. Лепшы з іх «Рост 2», хоць у яго малавата магнію, бору і малібдэну.

Спачатку на адну градку стандартнага размеру 45×900 см рассыпаюць першую сумесь, пасля — другую.

Грудочкі ўгнаенняў не павінны быць большымі за 1—0,5 см у дыяметры. Іх расціскаюць ці разбіваюць (карыстаюцца пры гэтым гаспадарчымі рукавіцамі). Уся сумесь ляжыць на «падушцы» градкі, якая абмежавана валікамі ці шпагатам. Шырыня гэтай падушкі — 30—35 см.

Усё на градцы робяць у адзін дзень: капаюць на поўны штык лапаты, загортваючы ўгнаенне, раўняюць (градка нібы стол, шырыня ўсюды аднолькавая), рыхтуюць канаўкі і сеюць ці высаджваюць расаду. Абавязкова ладкуюцца борцікі 8—15 см вышынёй. Яны неабходныя, каб угнаенні ляжалі дакладна на градцы і каб вада пры палівах трапляла толькі да каранёў раслін, а не разлівалася ў барозны.

Чаму размячаць градку, уносіць угнаенні, капаць і сеяць у адзін дзень? Можа, пачакаем дзень-другі? Не, такога дапускаць нельга. Пустазелле, якое стаілася ў глебе, набудзе лепшыя ўмовы. Яно хутчэй прарасце і шпарка будзе развівацца, спаўна выкарыстоўваючы пажыўныя рэчывы, вільгаць і сонца. Культурныя расліны адстануць у росце. Урэшце, шкоднікі заглушаюць кволыя культурныя парасткі.

Гэту акалічнасць важна ўлічваць і на традыцыйных беларускіх градах. А калі не ўдалося ўсё зрабіць у адзін дзень, то хоць бы прабарануйце месцы будучых пасадак, каб знішчыць шкоднікаў, якія праклюнуліся.

Такім чынам, на «полі» доктара Мітлайдэра ўнесены ўгнаенні, глеба перакапана. Робім на градцы дзве невялікія канаўкі каля кожнага з двух краёў-борцікаў (адлегласць паміж канаўкамі 30 см). Сярэдзіна свабодная. У канаўкі кладзём зерне на зададзеную глыбіню. Якую? Амерыканскі даследчык раіць прытрымлівацца такога правіла: над кожным калівам павінен быць такі слой глебы, які перавышае таўшчыню (звярніце ўвагу: таўшчыню, а не даўжыню) зерня ў 2,5 раза. Такім чынам, над морквай і пятрушкай будзе танюсенькі слой. Гарох акажацца ўжо глыбей. Найглыбейшым будзе загортванне бабоў. Наогул буйныя расліны — гарох, фасоль, бабы, кукуруза — высяваюцца на 4-кратную глыбіню.

Прарэджванне заўжды непажаданая з'ява. Расліны пераносяць яго як цяжкую хваробу.

Між тым, гэтага лёгка пазбегнуць, калі высяваць насенне ў нейкіх сумесях — з рачным сыпкім пяском, пілавіннем, проста папяровымі стужкамі, на якіх наклеены на крухмале зярняткі.

Для самых дробных каліў суадносіны насення і пяску 1:100. Добра высяваць радыску з дробным пілавіннем: 1 карабок насення на 0,7 літра пілавіння. Можна і так: насенне з дробным пяском насыпаць у цэлафанавы мяшочак (з-пад малака, напрыклад), добра перамяшаць, завязаць. Адзін вугалок адрэзаць і праз гэту адтуліну «цадзіць» сумесь у канаўкі.

І ўсё ж, як бы старанна ні ладкавалі насенне, недзе ды запатрабуецца прарыўка. Рэкамендуецца не вырываць расліну, а зразаць. У тых, што засталіся, каранёвая сістэма не будзе парушана. Яны нават не «заўважаць» страты сябра.

Насенне, якое лягло ў глебу, патрабуе добрага насычэння вільгаццю. Ліць ваду пад напорам нельга — змыем глебу і выкінем на паверхню самі калівы. І калі яны прараслі, то абавязкова загінуць. Мітлайдэр рэкамендуе палажыць на месцы будучых радкоў палоскі, скажам, старой марлі. Яна засцеражэ глебу ад змыву. Як толькі з'явяцца першыя семядольныя лісточкі, марлю знімаем, бо яна зацяняе, не дае ходу парастку.

Такім чынам, да прарастання галоўнымі з'яўляюцца вільгаць і цяпло, пасля прарастання — сонца і сілкаванне.

У якасці «абеду» выкарыстоўваем нарыхтаваную другую сумесь. Падкармліваем штотыднёва (бывае і часцей). Памятаем, што ні на адным этапе развіцця гадаванцы не павінны затрымлівацца ў сваім развіцці. Калі яны зрабілі, скажам, адзін «перакур», ураджай спозніцца на паўмесяца.

Падкормкі пачынаюць праз тыдзень-паўтара пасля высадкі расады ці з'яўлення ўсходаў. На 9-метровую граду (пасярэдзіне яе) тонкай палоскай рассыпаем 360 г другой сумесі (ці 440 г «Росту-2»). Затым паліваем, каб сумесь растварылася. Кожная асобіна атрымае сваю «долю». Усе будуць расці аднолькава. Гэта ў сухое надвор'е. У дажджлівае сама прырода паклапоціцца пра раўнамернае падсілкоўванне раслін.

Можна прывесці прыкладную колькасць падкормак. Гарох, фасолю і буракі «кормяць» 3—4 разы за вегетацыю; радыску два разы (як толькі з'явіліся ўсходы і праз 10 дзён), капусту ўсіх відаў і салату да пяці разоў; цыбулю — да шасці; памідоры, перцы, агуркі, кабачкі да васьмі разоў; а моркве хопіць і чатырох падкормак.

Ліставыя культуры і караняплоды перастаюць падкармліваць за 20 дзён да збору, а памідоры, агуркі, перцы, кабачкі, гарбузы «кормяць» і ў час збору пладоў. Тут ніякіх перапынкаў няма.

Вось і ўсё пра сілкаванне. У наступную сераду раскажам пра расаду па Мітлайдэру.

Дададзім яшчэ, што нямала званкоў нашы чытачы адрасуюць самой сістэме, сілкаванню раслін, вырошчванню расады, палівам. Пра ўсё гэта будзе ў заключнай публікацыі.

Зрэшты, многія прапануюць выдаць спецыяльную брашуру, у якую ўключыць яшчэ розныя табліцы, дыяграмы, малюнкі. Звяртаемся да чытачоў за дапамогай-парадай. Пажадана прысылаць прапановы на паштоўках.

**(Працяг. Пачатак у выпусках за 28 кастрычніка і 4 лістапада).**

## РЭКОРДЫ ПРЫСЯДЗІБЫ

# Гарбуз-паўтарапудовік

Было гэта два гады назад. Настаўніца-пенсіянерка з г. п. Узда Лілія Міхайлаўна Шырко прачытала аднойчы ў газеце «Звязда» пісьмо агародніка-аматара Л. Павядайкі з вёскі Матылі Шчучынскага раёна аб тым, што яна можа прыслаць па пошце насенне гарбуза-гіганта, які ўжо каторы год вырошчвае на прысядзібным участку. А займела гэта цудоўнае насенне з Чэхаславакіі.

Ліліі Міхайлаўне, настаўніцы-біёлагу, карцела самой вырасціць ля свайго дома такі гарбуз. Напісала адрасату. І вось атрымала канверт, у якім ляжалі чатыры зярняткі.

З двух зярнятак (два загінулі) вырасла па гарбузу. Адзін з іх асабліва памерамі не вызначаўся. А вось другі ў поўным сэнсе слова адпавядаў сваёй назве «гігант». Вялікі, прадаўгаваты, жоўта - чырвонага колеру, здавалася, ён увабраў у сябе ўсе фарбы лета. Прыйшлі палюбавацца і падзівіцца на волата не толькі суседзі, але і многія жыхары Узды. А параметры гарбуза ўнушальныя: вышыня — 70 сантыметраў, вага — паўтара пуда!

**Міхаіл БУЛАТ.**














## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 11 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**

**9.55.** «Гонка веку». Мастацкі фільм.
**16.30.** «Сказ пра Скамароха і цара Гароха». Спектакль Магілёўскага аблдрамтэатра.
**17.40.** «У стылі джаз-рэтра». Фільм-канцэрт.
**18.00.** Дак. фільмы «Матылькі высакагор'я», «Ружовы вецер», «У дальце Ілі».
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Рэпартаж з адкрыцця нацыянальнай выстаўкі «Польшча-92».
**19.30.** «Гэта—Варшава». Дак. фільм.
**20.00.** Палітычны калейдаскоп. Якой быць мясцовай уладзе?
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння—рэйцінг: НІКа; П. Чайкоўскі. Фантазія «Франчэска да Рыміні».

**Канал «Астанкіна»**

**11.20.** «Угрум-рака». 2-я серыя «Анфіса».
**12.40.** «Пакуль не выпаў снег...» Мастацкі фільм.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** «Пчала Мая».
**16.05.** Падарунак меламану. Іграе В. Траццякоў.
**16.35.** Як дабіцца поспеху.
**16.50.** Прэс-экспрэс.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Вагон 03.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.45.** Грамадская думка.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Мастацкі фільм «Камедыянты» (ЗША). 1-я серыя.
**21.55.** Тайна хімічнай зброі.
**22.05.** Тэлебаль, прысвечаны Х фестывалю моладзі «Варонеж-92». У перапынку **(23.00)**—Навіны.
**23.50.** «Пакуль не выпаў снег...». Мастацкі фільм.

**Канал «Расія»**

**11.00.** «Санта-Барбара».
**11.50.** «АЛСІБ: неба адно на ўсіх...»
**12.35.** Т. Ін. Ка.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Сігнал.
**15.15.** Далёкі Усход.
**16.00.** Там-там-навіны.
**16.15.** Тэніс. Кубак Крамля.
**17.00.** Хрысціянская праграма.
**17.30.** Гутаркі ў «Метраполі».
**17.50.** Давайце разбяромся.
**18.05.** Апазіцыя.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.25.** «Санта-Барбара».
**20.15.** Вечары ў доме Гогаля.
**21.00.** Бізнес і палітыка.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** Сёння ў ВС Расіі.
**22.45.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**23.00.** Тэніс. Кубак Крамля.
**23.30.** Вінілавыя джунглі.

### 12 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Пяць вечароў». Мастацкі фільм з субцітрамі.
**16.30.** Выяўленчае мастацтва. 3-ці клас.
**16.50.** «З робатамі не жартуюць». Мастацкі фільм.
**18.00.** «Сем азёраў». Дак. фільм.
**18.15.** «Накцюрн».
**18.30.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.20.** Хакей. Кваліфікацыйны турнір да юніёрскага чэмпіянату свету (група «С»). Зборная Беларусі — зборная Украіны. У перапынку **(19.55)** — Тыдзень беларускага ўрада.
**20.50.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — студыя «КІТ»; НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** Фірма гарантуе.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.50.** ...Да 16 і старэйшым.
**10.30.** Мультфільмы «Сэрца храбраца», «Рублі старога казачніка».
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Угрум-рака». 3-я серыя «Здрадніцтва».
**12.25.** «Інцыдэнт з «Чорнай пушкай». Мастацкі фільм (Кітай).
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** «Пчала Мая».
**16.05.** Новыя імёны. Канцэрт.
**16.15.** Фільм—дзецям. «...А шарык ляціць».
**16.50.** Прэс-экспрэс.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.40.** «Двое ў адной лодцы». Пра фільмы А. Міндадзе і В. Абдрашытава.
**19.00.** Партрэт на фоне. І. Кірылаў.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Лато «Мільён».
**21.10.** Мастацкі фільм «Камедыянты» (ЗША). 2-я серыя.
**22.25.** «Хіт-парад Астанкіна». У перапынку **(23.00)** — Навіны.
**24.00.** «Інцыдэнт з «Чорнай пушкай». Мастацкі фільм (Кітай).

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**7.50.** Бізнес і палітыка.
**8.45.** «Увага: здымаю!»
**9.00.** Залатая шпора.
**9.30.** Праграма «03».
**10.00.** Права на святыні.
**10.30.** Настальгічныя вячоркі.
**11.00.** «Санта-Барбара».
**11.50.** Крыніцы.
**12.35.** Т. Ін. Ка.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Вучыцца рынку.
**15.30.** «Бадабокі». Праграма для дашкольнікаў (Францыя).
**15.50.** Там-там-навіны.
**16.05.** Тэніс. Кубак Крамля.
**17.00.** Так і жывём.
**17.30.** Парламенцкі веснік.
**17.45.** «Ваша права». Перадача 2-я.
**18.35.** «Дурнаваты воўк». Мультфільм (ЗША).
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.25.** «Санта-Барбара».
**20.15.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**20.45.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**21.00.** Адкрыты ўрок гісторыі і геаграфіі.
**21.45.** Дайце народу зямлю.
**22.00.** Весткі.
**22.30.** Тэніс. Кубак Крамля.
**22.45.** Сёння ў ВС Расіі.
**23.00.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**23.30.** «Насланнё». Фантазіі на тэму аповесці Тэнесі Уільямса «Рымская вясна місіс Стоўн».

**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў пятніцу, 13 лістапада г. г.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

**Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.**

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.* **Тэлефакс: 32-22-03.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Друкарня выдавецтва «Беларусні Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 228.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**